# ПАГОНЯ

Чацвер
25 траўня 2000 г.
№ 18 (465)
Кошт 70 рублёў


## Ёд піць не трэба!

**Ужо некалькі дзён па Гародні ходзяць чуткі пра пагаршэнне экалагічнай сітуацыі ў горадзе. Адныя кажуць пра новую аварыю на ЧАЭС, другія - пра шкодныя выкіды на «Азоце», іншыя распавядаюць страшныя падрабязнасці пра пажары на тарфяніках. Матулі не выпускаюць на вуліцы дзяцей, а «самыя дасведчаныя» на ўвесь тралейбус раяць піць ваду з ёдам.**

- Не трэба ніякіх ёдаў піць!!! - заявіў начальнік аддзела па надзвычайных сітуацыях штаба грамадзянскай абароны Міхаіл Вільдзяеў. - Зноў вы ўсё не так разумееце! Гэта ж былі планавыя штогадовыя мерапрыемствы з навучальнай мэтай.

Спадар Вільдзяеў паведаміў, што каб адбылося нешта надзвычайнае, то штаб грамадзянскай абароны першым меў бы інфармацыю. А яшчэ яны штодзень робяць радыяцыйныя замеры. 23 траўня прыборы паказвалі 0,013 мікрарэнтгена ў гадзіну (пры норме ў 0,020 мікрарэнтгена).

Што тычыцца тарфянікаў, то яны сапраўды гараць. У Лідскім раёне, напрыклад, з пачатку месяца гарэла больш за 30 гектараў. На сённяшні дзень намаганнямі службы пажарнай бяспекі і МЧС эпіцэнтр скарацілі да 3,5 гектара. На тушэнні пажараў працуюць людзі з калгасаў і саўгасаў, якія цягаюць цыстэрнамі ваду. Задзейнічаныя нават восем трактароў.

Міхаіл Вільдзяеў кажа, што тарфянікі амаль не дымяць, таму не могуць забруджваць паветра, якім дыхаюць людзі.

Інжынер аддзела аховы прыроды і рацыяналізацыі прыродных рэсурсаў «Азота» таксама катэгарычна заявіла, што ніякага выкіду шкодных рэчываў на «Азоце» не было.

- Нават калі, барані Божа, будзе нейкі выкід, ёд вам не дапаможа - да нашых хімічных элементаў дачыненне ён не мае. Увогуле ёд трэба піць за некалькі дзён да аварыі. А паколькі гэта амаль немагчыма - лепш пейце чырвонае віно, яно ні ў якім выпадку не пашкодзіць.

**Юлія Дарашкевіч**

## Адкупіліся ад рабочых падачкай

**17, 18 і 19 траўня абедзве змены прадзільнай фабрыкі Гарадзенскага тонкасуконнага камбіната правялі акцыі пратэсту супраць затрымак выплаты заробнай платы і яе жабрацкага памеру. Больш як 60 чалавек на працягу гэтых трох дзён на некалькі гадзін адмаўляліся выконваць работу. У выніку акцыі генеральны дырэктар Уладзімір Крупін паабяцаў рабочым, што заробак будзе падвышаны на 15 працэнтаў.**

Як паведаміў кіраўнік Свабоднага прафсаюза фабрыкі Адольф Зацэпін, нават гэтая мізэрная ўступка не мае перспектывы выканання. Фабрыка працуе на склад, бо асартымент прадукцыі, у асноўным, зімовы. Прадпрыемства вінаватае сваім партнёрам болей за паўмільярда рублёў, ільвіная доля з іх - запазычанасць за энерганосьбіты. Між тым, ствараецца ўражанне, што нікога не цікавіць распрацоўка нейкага прынцыповага плану па вывадзе прадпрыемства з зацяжнога крызісу.

Няўжо чакаюць, калі рабочыя, абураныя заробкам у 20-25 мільёнаў рублёў, выйдуць на плошчу імя «вождя пролетариата»?

**Ул.інф.**



**НАДВОР'Е**

**26, 27 траўня** - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, вецер паўночны. Тэмпература паветра 26 траўня - уначы +1...+3, удзень +16...+18; 27 траўня - уначы +2...+4, удзень +17...+19.



## Шаснаццаць птушак пад адным дахам

**На нядаўняй прэс-канферэнцыі, прысвечанай маючаму адбыцца III Усебеларускаму фестывалю нацыянальных культур, Яўген Жэбрун, які курыруе ў гарвыканкаме пытанні культуры, прызнаўся, што самы вялікі інтарэс гарадзенцаў выклікае работа мастакоў-манументалістаў на сцяне будынку N6 па вуліцы Савецкай.**

Пано, якое прысвячаецца фестывалю, займае ўсю сцяну. Яно выконваецца ў тэхніцы «сграфіто» (разьба па сухой тынкоўцы). Шаснаццаць птушак, якія мірна ўладкаваліся ў адным доме, сімвалізуюць прыязнае суіснаванне шаснаццаці нацыянальных культураў на адной тэрыторыі. Дарэчы, кожная птушка «апранутая» ў арнамент сваёй нацыі. Кампазіцыю дапаўняюць герб Гродна - Алень Св.Губерта і два анёлы, якія нібы зляцелі з купалоў Фарнага касцёла.

Аўтар кампазіцыі - гарадзенскі мастак Аляксандр Сільвановіч (на здымку). Ён стаў пераможцам конкурса, арганізаванага саюзам мастакоў. І трэба аддаць належнае нашаму гарвыканкаму: ён пагадзіўся прафінансаваць вельмі арыгінальную сучасную ідэю, зусім не падобную на традыцыйныя і абрыдлыя ўсім узоры манументальнага мастацтва з неадменна мэтанакіраванымі чалавечымі фігурамі. У пано А.Сільвановіча прысутнічаюць традыцыі еўрапейскага манументальнага мастацтва, старых забудоваў Гродна, Варшавы. Улічана і камернасць архітэктуры вуліцы Савецкай. У пано - мноства сімвалаў: тыя ж птушкі, алень, безліч арнаментаў, што характэрна для архітэктуры мінулых стагоддзяў. Адзін прахожы, - распавядае Алесь, - нават пацікавіўся: « Якога ж стагоддзя выявы вы, хлопцы, рэстаўруеце?».

Акрамя А.Сільвановіча «на сцяне» працуюць яшчэ два гарадзенскія мастакі: Сяргей Грыневіч і Мікалай Крукаў. Керамічныя ўстаўкі выраблае Васіль Мартынчук. Працуюць хлопцы, што называецца, ад золку да світання. Стамляюцца страшэнна. Але тэмпу не збаўляюць. Пано нараджаецца на вачах. Непакоіцца толькі, што тыя тынкоўшчыкі, якія рыхтавалі ім аснову, першы чарнавы пласт, яўна пашкадавалі цэменту. Гэты недахоп можа выявіцца пазней. Шкада будзе працы, калі ўсё пачне разбурацца.

Урачыстае адкрыццё пано - трэцяга чэрвеня ў 11.30.

**Ніна Палуцкая**

## Свята адбудзецца пры любым надвор'і

**Праграма правядзення III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў у Гродне звёрстана, тэрміны вызначаны, падрыхтоўка ў самым разгары. На святкаванне адведзена два дні замест трох, якія меркаваліся раней: другога і трэцяга чэрвеня.**

Для ўдзелу ў фестывалі запрошаны 15 нацыянальных суполак з усёй Беларусі. А калі дасць згоду эстонская дэлегацыя, то іх будзе 16. Паводле звестак Ірыны Кліменкі - дырэктара фестываля - удзельнікаў і гасцей свята будзе не меней за 650 чалавек. Апрача ўжо традыцыйных для ранейшых падобных мерапрыемстваў украінскай, польскай, татарскай, яўрэйскай суполак, гэтым разам элементы сваіх культурных традыцыяў будуць дэманстраваць азербайджанская, карэйская, грэчаская, чувашская і нават беларуска-цыганская дыяспары.

У праграме фестываля, як заўсёды, - тэатралізаванае шэсце суполак, размяшчэнне нацыянальных падворкаў, дзе іх гаспадары будуць спяваць, танцаваць, расказваць анекдоты, і, канешне, частаваць гасцей сваімі нацыянальнымі стравамі. Дарэчы, шашлыкі можна будзе паспрабаваць як на грузінскім, так і на азербайджанскім ды армянскім падворках. А заадно і адчуць розніцу. Грэкі абяцаюць зачараваць сваім знакамітым танцам сіртакі ўвесь горад.

Незвычайным будзе, папершае, тое, што ўрачыстае адкрыццё і закрыццё фестываля здолеюць убачыць усе ахвотныя, таму што арганізатары вырашылі праводзіць яго не ў зале тэатра ці Палаца культуры, як гэта было раней, а на Савецкай плошчы. Тут адбудзецца гала-канцэрт, свята «Мода без межаў», у якім удзельнічаюць дзве канкуруючыя гарадзенскія школы манекеншчыцаў «Юні-Арт» і «Мілена», а таксама моладзевая праграма «Беларускі фольк-мадэрн», у рамках якой выступіць гурт «Палац».

Асобнымі пунктамі праграмы стаяць адкрыццё фотавыставы «Гродна на мяжы тысячагоддзяў» і унікальнага тварэння гарадзенскіх мастакоў - дэкаратыўнага пано на тарцы дома па вуліцы Савецкай, назва якога «На меридианах дружбы». Ну а напрыканцы свята - феерверк.

Адпаведна афіцыйным дадзеным, расходы на правядзенне фестываля павінны ўкласціся ў 60 мільёнаў рублёў. Дваццаць мільёнаў паступяць з рэспубліканскага бюджэту праз Міністэрства культуры, столькі ж абяцаў выдаткаваць гарадскі выканкам, пятнаццаць мільёнаў павінна паступіць з бюджэту вобласці (г.зн. з Упраўлення культуры) і пяць мільёнаў абяцаў Дзяржкамітэт па справах нацыянальнасцяў і рэлігіяў. Праўда, Ірына Кліменка паскардзілася, што ні адкуль яшчэ не паступіла ні рубля. Але свята ўсё роўна адбудзецца, як кажуць, пры любым надвор'і.

Дарэчы, пра надвор'е. На выпадак дажджу (хаця лепей, каб яго ў гэтыя дні не было) будуць выкарыстаныя залы Драмтэатра, Палаца культуры хімікаў і Гарадскога Дома культуры.

**Сава Травень**

## Лідчукі не забываюць дом

**19 траўня ў Лідзе адкрыўся шосты з'езд лідчукоў свету. Выхадцы Лідчыны, якія зараз жывуць у краінах далёкага і блізкага замежжа, кожны год прыязджаюць на радзіму. Дэлегатамі чарговага з'езда сталі 120 чалавек.**

19 траўня ў праграме форуму быў Дзень беларускай культуры. Госці пабывалі на канцэрце калектываў мастацкай самадзейнасці, наведалі раённы гісторыка-мастацкі музей.

## Навошта зброя?

**У дачыненні да двух жыхароў горада Ліда узбуджана крымінальная справа па артыкулу 213, частка 1 Крымінальнага кодэкса Беларусі - «Крадзеж агнястрэльнай зброі, баявых прыпасаў або выбуховых рэчываў».**

16 траўня пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі Лідскага міжраённага аддзела Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі МУС Беларусі затрымалі аўтамабіль «сітраен». Ім кіраваў раней судзімы мясцовы прыватны прадпрымальнік. У салоне машыны быў знойдзены рэвальвер сістэмы «наган» з 8-ю патронамі і глушыцелем. У аўтамабілі знаходзіўся яшчэ адзін раней судзімы - непрацуючы мясцовы жыхар. У той жа дзень у кватэры якога знаёмай быў знойдзены прыналежачы яму пісталет маркі «ТТ» і шэсць патронаў да яго.

Кіроўца і пасажыр «сітраена» затрыманы. Вядзецца следства.

## «Клопату» не хапіла

**У Гродне завяршыўся месячнік «Клопат». Ён праводзіўся з 17 красавіка па 17 мая ўпраўленнямі адукацыі раённых адміністрацый, цэнтрам сацыяльна-педагагічнай дапамогі і цэнтрам карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі.**

Мэтай акцыі было выяўленне дзяцей, маючых патрэбу ў дапамозе, і аказанне ім яе. Калектывамі школ быў арганізаваны збор адзення і школьных прылад. Гэтыя рэчы перадаваліся дзецям-сіротам, дзецям-інвалідамі і дзецям з малазабяспечаных і мнагадзетных сем'яў. Вывучаліся магчымасці і пажаданні гараджан прыняць на летнія канікулы дзяцей з інтэрнатаў і інтэрнатных груп. 21 сям'я заявіла аб жаданні гэта зрабіць.

Разам з тым, работнікі адукацыі прызнаюць, што не змаглі ахапіць усіх дзяцей і ўсе сем'і, якія маюць патрэбу ў дапамозе, Іх колькасць пастаянна расце. На сёння ў Гродне - горадзе з 310-тысячным насельніцтвам - налічваецца больш за 5 тысяч дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і 639 дзяцей-інвалідаў, а таксама каля 5 тысяч малазабяспечаных, больш за 8 тысяч няпоўных і 818 праблемных сем'яў.

## Будзем менш есці?

**Гаспадаркі Гродзенскай вобласці скарацілі водпуск мяса-малочнай прадукцыі.**

За чатыры месяцы імі рэалізавана на зарэз 42,2 тысячы тон жывёлы і птушкі, што на 16 працэнтаў менш, чым за леташні аналагічны перыяд. Сярэднесутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы зменшыліся на 104 і склалі 324 грама, свіней - на 33 грама (380 грамаў). Валавы надой малака па вобласці склаў 115,2 тысячы тон, што на 17 працэнтаў менш, чым год таму. Сярэдні надой малака ад каровы знізіўся на 125 і склаў 663 кілаграма.

Нарыхтоўчыя арганізацыі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак закупілі 33,3 тысячы тон жывёлы і птушкі і 96,5 тысячы тон малака (93 і 84 працэнты адпаведна да ўзроўню 1999 года).

**Ася Куніцкая**

 



# Беларускі інтэрнэт: які рэальны патэнцыял віртуальнай палітыкі?

**Супраць глабальнай павуціны бяссільныя міліцэйскія дубінкі. Апазіцыйны сайт прыкрыць куды цяжэй, чым непажаданае друкарскае выданне. Віртуальныя Маршы Свабоды можна праводзіць без усялякіх санкцыяў выканкама. Карацей кажучы, мажлівасці інтэрнэта ў плане палітычнай барацьбы каласальныя. Але ў Беларусі гэта пакуль у асноўным тэарэтычныя магчымасці.**

На практыцы ж мы маем наступнае.

Сваімі сайтамі абзавяліся некаторыя найбольш вядомыя палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі - напрыклад, БНФ (і асобна Малады Фронт), юныя сацыял-дэмакраты з «Маладой грамады», Беларускі Хельсінкскі камітэт. Праўда, ні выдумкай, ні рэгулярным абнаўленнем гэтыя старонкі, як правіла, не вылучаюцца.



У сезон «гарачай вясны», скажам, доўга была змярцвелай (з абяцаннем адрадзіцца ў абноўленым выглядзе) вэб-старонка Маладога Фронту (http://www.geocities.com/CapitolHill/Senate/1436). Хаця, здавалася б, каму, як не «продвинутой» юнай генерацыі змагароў, у разгар чарговага рашучага наступу на «злачынны рэжым» задаваць тон і на віртуальным ратным полі? Але, на жаль!.. Што ўжо і казаць пра перыферыйныя арганізацыі: на прыклад, самая свежая інфармацыя на старонцы віцебскага цэнтру моладзевых ініцыятываў «Контур», насуперак рэмарцы пра штодзённае абнаўленне, дагэтуль распавядае пра затрыманне актывістаў мясцовай апазіцыі падчас акцыі «Дзень Волі» 25 сакавіка.

Найбольш дынамічным з'яўляецца сайт «Хартыі-97» (http://www.charter97.org). Тут заўсёды можна знайсці гарачую хроніку, а таксама падборкі матэрыялаў па актуальных тэмах. Прычым, інфармацыя падаецца па-беларуску, па-руску і па-ангельску. На жаль, хуткасць падачы навінаў нярэдка ідзе на шкоду правапісу. (Мяркую, ва ўсякім выпадку, па беларускім варыянце, які звычайна праглядаю). Перыядычна «Хартыя» наладжвае віртуальныя акцыі пратэсту. У прыватнасці, ахвотныя маглі пры дапамозе стандартнага электроннага паслання выказаць сваё непрыманне дамовы аб утварэнні саюзнай дзяржавы ў снежні 1999 года, а ў красавіку гэтага года - накіраваць на электронны адрас прэзідэнцкай адміністрацыі патрабаванне дазволіць «Чарнобыльскі Шлях». Што ў выніку і было зроблена. Хаця наколькі тут паўплывала менавіта віртуальная бамбардоўка адміністрацыі, меркаваць, ведамая рэч, цяжка.

Апазіцыйным духам прасякнуты і шэраг папулярых сайтаў, якія фармальна не належаць нейкім нелаяльным у дачыненні да сёньняшняй улады структурам. Гэта, напрыклад, «Дранікі» («каляпалітычны каляжурналісцкі альманах пра жыццё Рэспублікі Беларусь вачыма яе грамадзянаў» - http://www.draniki.com), «Карчма ў старога Язэпа» (http://www.pig.minsk.by/karczma).

Іх адметныя рысы - нестандартная падача матэрыялаў, трапны, з'едлівы гумар. Гэта якраз той жанр, у якім афіцыйная прапаганда абсалютна бяссільная. Найбольш папулярным сярод беларускіх сайтаў сатырычнай скіраванасці, мяркуючы па дадзеных рэйтынгу «Акавіта» (http://akavita.kryvia.net), з'яўляецца «Чарнобыльскі вожык» (http://www.czavo.f2s.com).

Іншы ж полюс, увасабленне маркотнага афіцыёзу - гэта, канешне, сервер прэзідэнцкай адміністрацыі (http://www.president.gov.by).

У прыватнасці, інфармацыя наконт распачатага паводле вышэйшага загаду так званага грамадска-палітычнага дыялогу падаецца там з вялікім рыпам, нерэгулярна і казённа (зрэшты, гэта, бадай, той выпадак, калі адэкватна адлюстроўваецца сам працэс - вымучаны, імітацыйны). І другі характэрны штрых: сайт мае толькі рускую і ангельскую версіі - мова тытульнай нацыі (фармальна ўсе-ткі пакінутая дзяржаўнай) начыста праігнараваная.

Затое беларуская служба Радыё «Свабода» (http://www.svaboda.org), натуральна, падтрымлівае ў сусветнай сетцы буларускамоўны сайт. У раздзеле «Перадачы» там можна знайсці і матэрыялы рубрыкі «Беларускі дыялог на інтэрнэце». У яе рамках рэгулярна робяцца, трэба сказаць, даволі якасныя - лаканічныя і ёмістыя - агляды Белнэта.

У адным з іх, у прыватнасці, заўважана, што магчымасці глабальнай сеткі больш актыўна выкарыстоўваюць недзяржаўныя (а ў беларускіх умовах - ужо таму ў той ці іншай ступені апазіцыйныя) друкарскія выданні. Бадай, па-за канкурэнцыяй тут сайт «Белорусской деловой газеты» (http://bdg.press.net.by). Ахвотныя могуць знаёміцца з паўнакроўнымі электроннымі версіямі чарговых нумароў, як правіла, на суткі раней, чым тыя з'яўляюцца ў кіёсках у традыцыйным папяровым выглядзе. Няблага выглядаюць у сетцы «Белорусская газета» (http://www.solo.by/bg-weekly), «Свободные новости» (http://www.belarustoday.com/sn), «Белорусский рынок» (http://www.br.minsk.by). Маюць сеткавыя версіі і некалькі мясцовых недзяржаўных выданняў. Дарэчы, выйсці на сайты беларускіх газетаў і часопісаў можна з дапамогаю «Дзеда Талаша» - «першага беларускага партала і каталога» (http://dt.home.by). Ёсць там і гіперспасылкі на інтэрнэтаўскія старонкі шэрагу дзяржаўных газетаў. Урэшце, у большасці сваёй (у лепшы бок тут вылучаецца хіба што ўлюбёнца ўлады «Советская Белоруссия») гэтыя сайты прымітыўныя, убога аформленыя і маюць толькі бедны набор хаатычна - не па важнасці , а як уздумаецца - навырываных з нумароў матэрыялаў.

Такім чынам, беларуская апазіцыйная прэса ў глабальнай камп'ютарнай сетцы мае больш выйгрышныя пазіцыі, чым на традыцыйным рынку друкарскай прадукцыі.

Цалкам жа развіццё беларускага палітычнага інтэрнэта стрымліваюць дзве абставіны. Першая - аб'ектыўная. У краіне мала камп'ютараў, а ўплеценых у глабальную павуціну - тым больш. Другая абставіна - суб'ектыўная. А менавіта: палітычныя кіраўнікі (размова ў дадзеным выпадку перш за ўсё пра лідараў апазіцыі, бо правадыроў рэжыму ўявіць за камп'ютарам наогул цяжка) альбо не маюць доследу ў віртуальных тэхналогіях, ці недаацэньваюць іх магчымасці ў дасягненні сваіх рэальных мэтаў. Г.зн. разважаюць па прынцыпу: калі карыстальнікаў у краіне раз-два і аблічыўся, ды і тыя ў асноўным свае людзі (бо ільвіная доля электарату Лукашэнкі не адрознівае інтэрнэт ад інтэрната), - то, маўляў, няма чаго і агарод гарадзіць, марнаваць сілы на віртуальную агітацыю.

Ці варта казаць, што яны памыляюцца?

А калі рэзюміраваць, то вэб-вымярэнне беларускай апазіцыі адлюстроўвае яе напаўаматарскі ўзровень. Ці могуць разлічваць на сур'ёзныя поспехі ў барацьбе за ўладу тыя, хто вядзе яе, як і абнаўляе сайты, час ад часу, пад настрой? Ім жа процістаяць тыя, хто дбае пра ўтрыманне ўлады ўдзень і ўночы, выкарыстоўваючы для гэтага магутны дзяржаўны апарат.

Вартавыя дзяржаўнага ладу, дарэчы, нутром чуюць рэальную пагрозу віртуальнай палітыкі. Каментары ў афіцыёзных СМІ адносна развіцця глабальнай сеткі (характэрным быў, да прыкладу, сюжэт у выпуску «Рэзананса» другога красавіка) адрозніваюцца надзённа-абскурантысцкім духам і насычаныя лексікай інфармацыйнай вайны. Лейтматыў такі: інтэрнэт - новая дасканалая зброя знешніх і ўнутраных ворагаў дзяржавы, якія з дапамогай нябачнай павуціны жадаюць аблытаць свядомасць добрапрыстойных грамадзянаў і ўрэшце рэшт падарваць асновы дзяржаўнага ладу...

Ідэал падобных каментатараў - наглуха адгарадзіцца ад свету жалезнай заслонай, на карані вынішчыць праклятыя інфармацыйныя тэхналогіі, супраць якіх бяссільна звыклая цэнзурная дубіна.

Але, зразумела, на такое не пойдзе нават адыёзны беларускі рэжым. А значыць, і патэнцыял віртуальнай палітыкі, якая дае краіне цывілізаваны шанец, будзе спакваля мацнець.

**Аляксандр Класкоўскі**

**P.S.:**

**Гэты агляд не прэтэндуе на ўсеахопнасць як мінімум з трох прычынаў: з-за лаканічнасці, дынамікі інтэрнэта (за ўсім не прасочыш), і нарэшце, таму, што мэтай аўтара было не адлюстраваць максімум URLаў, а толькі накідаць эскіз тэндэнцыяў, якія назіраюцца у віртуальным вымярэнні беларускай палітыкі.**

# Рэгіёны ўзгадняюць дзеянні

**18-19 траўня 2000 года ў Гродне па прапанове Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» адбылася нарада паўнамоцных прадстаўнікоў рэгіянальных аб'яднанняў дэмакратычных партыйных, грамадскіх і прафсаюзных арганізацыяў.**

Удзел у нарадзе прынялі Іосіф Навумчык і Вадзім Баршчэўскі (Абласная каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў, г.Віцебск); Віктар Карнеенка («Грамадзянскія ініцыятывы», г.Гомель), Алег Грамыка (Беларуская партыя «Зялёныя», г.Гомель); Сямён Домаш (Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва», г.Гродна), Сяргей Мальчык (БНФ «Адраджэньне», г.Гродна), Аляксандр Мілінкевіч (Абласная грамадская арганізацыя «Ратуша», г.Гродна); Віталь Васількоў («Магілёўская альтэрнатыва», грамадскае аб'яднанне «Кола сяброў», г.Магілёў), Анатоль Фёдараў («Магілёўская альтэрнатыва», г.Магілёў); Станіслаў Суднік (Гарадская арганізацыя Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны, БНФ «Адраджэньне», альянс «Дэмакратычная Ліда», г.Ліда); Анатоль Аскерка (Цэнтр грамадскіх ініцыятываў «Скрыжаванні», г.Барысаў); Аляксандр Капуцкі (Каардынацыйная рада дэмакратычных арганізацыяў, г.Маладэчна); Мікалай Дзялендзік (Каардынацыйны Савет рэгіянальнага дзейства, г.Салігорск); Аляксандр Катляроў (каардынатар няўрадавых арганізацыяў па Менскай вобласці, клуб выбаршчыкаў, г.Слуцк). Усе яны абраныя на абласных і гарадскіх сходах кіраўнікоў партыйных і грамадскіх арганізацыяў. У якасці назіральніка ў рабоце нарады ўдзельнічаў Рыгор Бакіевіч (г.Брэст).

У выніку перамоваў утворана Каардынацыйная Рада «Рэгіянальная Беларусь». Было падкрэслена, што гэта не новая грамадская арганізацыя, а форма супрацоўніцтва паміж шматлікімі аб'яднаннямі ў рэгіёнах, адкрытая для далучэння новых сяброў з тых гарадоў, у якіх дзейнічаюць буйныя і ўплывовыя аб'яднанні дэмакратычных палітычных і прафсаюзных арганізацыяў.

Зацверджана Палажэнне аб Каардынацыйнай Радзе «Рэгіянальная Беларусь». Вызначана, што мэтай з'яўляецца кансалідацыя і спалучэнне агульных дзеянняў.

Каардынатарам Рады абраны Сямён Домаш. Намеснікам - Віктар Карнеенка. Каардынацыйнай радзе Кангрэса Дэмакратычных сілаў Беларусі прапанавана ўключыць у свой склад кіраўніка Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь» як паўнамоцнага прадстаўніка беларускіх рэгіёнаў з правам вырашальнага голасу.

Прысутныя абмяняліся думкамі пра ўласную інфармацыйную палітыку, выданне бюлетэня «Рэгіянальная Беларусь», агульныя мерапрыемствы на бліжэйшы час. Чарговае пасяджэнне Каардынацыйнай Рады адбудзецца праз месяц у Магілёве.

**Антон Лабовіч**

# Сустрэліся са Старыкевічам

**У Гродне па просьбе сябра рэспубліканскага аргкамітэта па правядзенні Усебеларускага З'езда Аляксандра Старыкевіча адбылася яго сустрэча з сябрамі Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь». Госць з Менска праінфармаваў наконт падрыхтоўкі З'езда, паведаміў, што дэлегатамі ўжо абраныя каля ста чалавек ад розных рэгіёнаў Беларусі. Сама ідэя правядзення З'езда атрымала шырокую падтрымку.**

Між тым, сярод кіраўнікоў дэмакратычных сілаў краіны няма адзінага пункту гледжання на дату правядзення форума - у чэрвені. Напрыклад, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» лічыць, што прызначаны аргкамітэтам тэрмін нерэальны і прапануе правесці З'езд увосень. Са свайго боку, А.Старыкевіч паведаміў, што Беларусі рэальна пагражае інкарпарацыя з боку Расеі. Любое адкладванне мерапрыемства толькі на руку «інтэграстам». Таму трэба тэрмінова прыняць Акт Незалежнасці, цэнтральнай ідэяй якога з'яўляецца абвяшчэнне дзяржаўнасці свяшчэнным набыткам беларускага народа.

Каардынатар Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь», сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Домаш паведаміў, што прынята рашэнне падтрымаць ініцыятыву правядзення Усебеларускага З'езда. Каардынацыйнай Радзе Дэмакратычных сілаў Беларусі прапанавана сумесна з аргкамітэтам па падрыхтоўцы і правядзенні З'езда тэрмінова, да першага чэрвеня бягучага года, разгледзець пытанне наконт правядзення Усебеларускага З'езда, вызначыць парадак і дату яго правядзення. Рэгіянальным аб'яднанням палітычных, грамадскіх, прафсаюзных арганізацыяў рэкамендавана актывізаваць працу па падрыхтоўцы да правядзення форума.

**Уладзімір Кавалёў**

# У гасьцёх у сацыял-дэмакратаў

**Цэлы тыдзень для гарадзенскіх сацыял-дэмакратаў стаў шведскім.**

З 16 па 17 траўня "Маладую Грамаду" наведала прадстаўніца Шведскай сацыял-дэмакратычнай студэнцкай арганізацыі Вікторыя Майбі ў суправаджэнні Надзеі Аўсіевіч (Пінск, "Калегіум"). Асноўная мэта візіту - абмеркаванне сумесных шведска-беларуска-расійскія антынаркотыкавых праектаў, адзін з якіх, дарэчы, ужо распачаўся ў Пінску. Цікавіў замежную госцю і стан развіцця сучасных сродкаў камунікацыі на Беларусі, галоўным чынам развітасць сеткі Інтэрнэт. Адбылася таксама сустрэча і з прадстаўнікамі мясцовай моладзевай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі.

З 18 па 20 траўня Гродна наведала яшчэ адна шведская дэлегацыя ў складзе Сандры Хюльтгрэн (Сацыял-Дэмакратычная Моладзь Швецыі) і Майкла Сэнкесоо (Шведская Сацыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя). Гэты візіт - частка вялікага шведска-беларускага праекту па арганізацыі цеснага супрацоўніцтва паміж рэгіянальнымі сацыял-дэмакратычнымі арганізацыямі: як партыйнымі (БСДП-НГ), так і моладзевымі грамадскімі (Маладая Грамада, Малады Фронт).

Праграма побыту была даволі шчыльная і ўключала сустрэчы з палітычнымі (БСДП-НГ, БНФ), прафсаюзнымі (Беларускі незалежны прафсаюз, ГВА "АЗОТ"), нацыянальнымі (Аб'яднанне беларускіх чувашоў, Саюз палякаў на Беларусі) і моладзевымі (Маладая Грамада).

Падчас сустрэчы з мясцовымі сацыял-дэмакратамі абмяркоўваліся шляхі супрацоўніцтва, а таксама ход інфармацыйнай кампаніі ў падтрымку дэмакратыі на Беларусі, якая была ініцыявана шведскімі сацыял-дэмакратамі. Дзякуючы гэтай кампаніі, працуе інтэрнэтаўскі сайт "СТОП ЛУКА" www.stopluka.nu, у хуткім часе ў Менску павінна з'явіцца амбасада Швецыі.

**Валянцін Аскірка**

 

# Мужыкі ў форме і без яе здзекуюцца з жанчыны

**У нумары ад 4 траўня ПАГОНЯ расказала чытачам сумную гісторыю пра тое, як супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС без аніякіх падставаў схапілі гарадзенку Наталлю Сазанавец, пры затрыманні збілі, а потым усю ноч пратрымалі ў пастарунку, незаконна прычапіўшы да лавы кайданкамі. Увесь час міліцыянты наракалі Наталлі за тое, што яна, замест таго, каб прызнаць сваю няпраўду і пакаяцца, упарта пыталася, за што яе затрымалі. Далей міліцэйскае начальства паспрабавала вызначыць Наталлі «суткі» (адміністратыўны арышт), але суддзя адмовіўся разглядаць яе справу.**

Наталля Сазанавец абскардзіла дзеянні міліцыянтаў у пракуратуру. Днямі яна атрымала адказ пракурора Кастрычніцкага раёна горада Гродна Яўгена Труцько. У ім паведамляецца, што праведзеная пракуратурай праверка не знайшла складу злачынства ў дзеяннях міліцыянтаў. «Факту ўжывання спецсродка ПР-73 («палка резиновая» - **заўвага рэдактара**) не выяўлена...рашэнне аб адмове ў распачынанні крымінальнай справы Вы можаце абскардзіць у пракуратуру Гарадзенскай вобласці».

Трэба адразу сказаць, што Наталля Сазанавец абавязкова скарыстаецца сваім правам - і абскардзіць гэтае рашэнне. Наталля гаворыць коратка: «У гэтым горадзе жыць маім дзецям. Дзе гарантыя, што заўтра яны не падвергнуцца падобнаму катаванню? Я буду іх бараніць». Разам з тым, яна будзе бараніць і нашых дзяцей...

Той дзень затрымання мог бы зламіць яе волю, бо яна сутыкнулася з хамствам і здрадай у надзвычай вялікіх памерах. Адныя мужыкі, у форме, збілі яе ні за што. Другія мужыкі, з якімі яна размаўляла напярэдадні затрымання пра «бардаў і мастацтва», рапатоўна «на ўсё забыліся». Нарэшце, трэція мужыкі, з пракуратуры, засведчылі, што так і павінна быць.



Міліцыянты Чарняк і Шанчук, якія затрымалі Наталлю, заявілі ў пракуратуры, што ПР-73 не ўжывалася. А ў доказ гэтага прывялі такі аргумент - бо іначай яны абавязкова склалі б пра гэта рапарт. А як рапарту не склалі, значыць, і не ўжывалі. Атрымліваецца, Наталля сама пасадзіла на рукі і ногі сінякі памерам з піўны куфар? Судмедэкспертыза, куды пацярпелая звярнулася адразу пасля здарэння, на гэтае пытанне адказвае хутчэй адмоўна, чым сцвярджальна.

У высновах, якія зроблены гэтай аўтарытэтнай і кампетэнтнай установай, запісана літаральна наступнае: «Телесные повреждения гражданки Сазановец Н.П. - кровоподтёки верхних и нижних конечностей...были причинены тупым предметом (предметами) и могли образоваться при обстоятельствах в срок, указанный освидетельствуемой, о чём указывает их цвет. Форма и плотность расположения кровоподтёков на нижних конечностях позволяет предположить, что кровоподтёки на нижних конечностях могли образоваться от ударов резиновой палкой».

Вернемся, аднак, да прычынаў затрымання Наталлі Сазанавец. Міліцыянты Шанчук з Чарняком, сцвярджаюць, што гэта здарылася, бо «яна адмовілася назваць свае дадзеныя і нецэнзурна лаялася». Што тычыцца першага - так, адмовілася, бо ёй ніхто нічога не патлумачыў, а чапляцца да першага сустрэчнага міліцыі забаронена. Адносна другога - не лаялася. І супраціву не аказвала, як было сказана ў паперах, складзеных на Наталлю.

Як усё было насамрэч, мог бы патлумачыць Алег Кірыенка, знаёмы Наталлі, якога забіралі разам з ёю. Аднак Алег чамусьці памятае ўсё, акрамя таго, ці мацюкалася Наталля, і таго, ці наносілі міліцыянты ёй удары дубінкамі. Быў яшчэ адзін мужык, імя якога Мікалай, але яго пракуратура, відаць, не апытвала. Варта апытаць, мо ён не такі слабы на памяць і зрок.

Няма ў паперах пракуратуры ні слова пра тое, чаму Наталлю ўсю ноч пратрымалі ў кайданках. Няма ацэнкі таго, што складзены на яе пратакол за дробнае хуліганства і непадрадкаванне міліцыі не быў разгледжаны судом. Чаму ёй не дазволілі патэлефанаваць родным і папярэдзіць непаўналетнюю дачку...

Шмат пра што хацелася б прачытаць у адказе пракурора. Наталля Сазанавец спадзяецца, што ўрэшце рэшт яна атрымае вычарпальныя адказы на свае пытанні: гэта важна, бо яна бароніць сваіх дзяцей.

І, разам з тым, нашых.

**Сяргей Самасей**

# Чарапіца сагітаваў Сталыпіна

**Нашчадак вядомага гістарычнага дзеяча, аўтара аграрнай рэформы ў дарэвалюцыйнай Расеі Пятра Сталыпіна выказаў жаданне наведаць Гародню, а таксама былы маёнтак свайго дзеда ў Літве.**

Ініцыятарам падобнага падарожжа стаў гарадзенскі гісторык В.Чарапіца, які ўжо даўно вядзе перапіску з унукам былога расейскага міністра Дзьмітрыем Сталыпіным, што жыве ў Парыжы. Дзьмітры Сталыпін - вядомы пісьменьнік, публіцыст, кіраўнік парыскага ПЭН-цэнтру. Гарадзенскі навуковец ужо атрымаў дазвол ад гарадзкіх уладаў на гэты візіт.

**Ул. інф.**

# Алёна Свірыдава «праляцела»...

**Апошнім часам колькасць канцэртаў у Гродне значна павялічылася. І, нягледзячы на тое, што ўсё навокал вельмі дорага, а залы ў горадзе маленькія, канцэрты заўсёды праходзілі з аншлагам. Але...**

17 траўня ў Лядовым палацы спорту павінна была выступіць вядомая спявачка, наша суайчынніца Алёна Свірыдава.

Амаль што за месяц да яе выступлення ўсе вуліцы Гродна былі абвешаны фотаздымкамі і афішамі з запрашэннем на канцэрт. Квіткі каштавалі ад дзвюх да пяці тысяч рублёў. З запланаваных трох з паловай тысяч квіткоў было прададзена толькі 60...

Арганізатары канцэрта мяркуюць перанесці выступленне спявачкі на 29 траўня.

**Надзея Салыга**

# Акцыя «Якар для Дуброўна» працягваецца

**Паводле ініцыятывы Севастопальскага таварыства беларусаў «Бацькаўшчына» імя Максіма Багдановіча ў літаратурна-музычнай гасцёўні цэнтральнай бібліятэкі імя Л.Талстога адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы экспанатаў для экспазіцыі ў музей горада Дуброўна, дзе нарадзіўся герой расейскага флоту камандзір брыга «Меркурий» Аляксандр Казарскі. Помнік яму, першы ў горадзе Севастопалі, усталяваны на Матроскім бульвары. Вядучы - старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў Валерый Барташ паведаміў прысутным аб праводзімай акцыі, якая знайшла жывы водгук сярод грамадскасці горада.**

Камандуючы Чарнаморскім флотам адмірал Уладзімір Камаедаў падараваў гораду Дуброўна трохтонны адміралцейскі якар, які чакае адпраўкі на шкіперскім складзе ў духмяных травах на беразе мора.

Сваякі пісьменніка Генадзя Чаркашына, праўленне фонда, што носіць ягонае імя, перадалі ў дарунак сцэнар мастацкага фільма «Меркурий - бриг российский», створаны пісьменнікам. Фільм мяркуецца паставіць на кінастудыях Ленфільм і Масфільм як двюхгадзінную паўнаметражную кінастужку і ў выглядзе дванаццацісерыйнай тэлевізійнай версіі. Была выказана надзея, што Беларусь таксама возьме ўдзел у гэтай працы, распачатай яшчэ ў 1994 годзе.

Старшыня беларускага таварыства Валерый Барташ перадаў музею макет брыга «Меркурий». Гісторыкі-краязнаўцы Е.Алтабаева і В.Каваленка падаравалі музею кнігу пра Севастопаль «Потомству в пример». Надпіс на кнізе ўзноўлены з помніка Аляксандру Казарскаму, які выяўлены на вокладцы кнігі.

Навуковы супрацоўнік музея Чарнаморскага флота капітан першага рангу запасу Міхаіл Макарэеў перадаў у дарунак музею ксеракопіі ўнікальных лістоў, дакладаў у адміралцейства, калегію і гасудару пра подзвіг каманды «Меркурий», фрагмент дзённіка А.Казарскага.

Каштоўным падарункам ад творчай інтэлігенцыі Севастопаля з'явілася аповесць Валянціны Фралоўай «Ветры Босфора» пра подзвіг Казарскага, апублікаваная ў альманаху «Севастополь» і ўзнагароджаная літаратурнай прэміяй Крыма, а таксама вершы севастопальскіх паэтаў Ларысы Дабравольскай і Сяргея Кузняцова, прысвечаныя подзвігу брыга «Меркурий».

Камандаванне Чарнаморскага флота адкамадзіравала для дастаўкі экспанатаў у музей горада Дуброўна капітана другога рангу Юрыя Сарлая, які родам з Гарадзеншчыны.

**Ул. інф.**

# Гарвыканкам у ролі Сусаніна

**Гарадзенскі гарвыканкам у асобе С.Анішчыка не выканаў абяцання вырашыць праблему рэгістрацыі апальнай гарадзенскай газеты «Рэпарцёр» мірным шляхам. Пра такі намер чыноўнік заявіў віцэ-прэзідэнту Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Анатолю Гуляеву пасля акцыі «Рэпарцёр» з пятлёй на шыі», якая адбылася другога траўня.**

## Анішчык «падставіў» Лукашэнку

Нагадаем, што другога траўня пяцёра журналістаў былі затрыманыя каля гарвыканкама нарадам міліцыі, пасля чаго правялі у Ленінскім РАУС тры гадзіны. Пасля таго, як журналісты атрымалі вуснае папярэджанне пра недапушчальнасць несанкцыянаванага пікетавання помніка Леніна, іх адпусцілі.

Адпаведна дамоўленасці, дасягнутай паміж А.Гуляевым і С.Анішчыкам, БАЖ накіраваў у гарвыканкам просьбу вярнуцца да разгляду пытання адносна ўзгаднення адраса размяшчэння газеты «Рэпарцёр». Дадзены зварот быў шанцам для гарвыканкама «сохранив лицо», вырашыць канфлікт з журналістамі і задаволіць іх законныя патрабаванні.

Аднак, на гэтым тыдні стала вядома, што гарвыканкам змяняць сваё рашэнне намеру не мае. Пра сапраўдныя прычыны такой упартасці, ніхто з чыноўнікаў нічога зразумелага сказаць не можа. Відавочна толькі, што гарадзенскія ўлады зацікаўленыя ў эскалацыі канфлікту з незалежнай прэсай. І гэта нягледзячы на нядаўна выказанае А.Лукашэнкам жаданне асабіста прыняць удзел у дыялогу з апазіцыяй для выпрацоўкі прымальных умоваў правядзення ўвосень бягучага года парламенцкіх выбараў. Як вядома, адной з прынцыповых умоваў легітымнасці маючых адбыцца выбараў з'яўляецца свабоднае функцыянаванне незалежнай прэсы і гарантыі свабоды слова ў Беларусі.

## Шляхам Сусаніна

Такім чынам, дзеянні гарвыканкама, які з'яўляецца звяном прэзідэнцкай вертыкалі, належыць расцэньваць як дэманстрацыю крывадушша вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў, якія сцвярджаюць, што са свабодай слова ў Беларусі поўны парадак, альбо як правакацыю, скіраваную на падрыў асноваў рэжыму А.Лукашэнкі.

Неверагодна, але на карысць апошняга меркавання сведчыць той факт, што гарвыканкам дагэтуль ігнараваў занепакоенасць сітуацыяй вакол «Рэпарцёра» з боку памочніцы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Т.Бывалай, якая накіравала ў будынак на плошчы Леніна афіцыйны запыт з просьбай растлумачыць прычыны адмовы ў выдачы неабходнага для рэгістрацыі газеты дакумента. Не ўразіла чыноўнікаў і тое, што праблемай зацікавіўся памочнік прэзідэнта Посахаў.

На мінулым тыдні гарадскія ўлады забаранілі заснавальніку «Рэпарцёра» А.Пісальніку правядзенне інфармацыйнага пікету. Прычына - спадар Пісальнік быццам бы не вытрымаў прадугледжаных законам тэрмінаў падачы заявы на правядзенне такіх мерапрыемстваў. Хаця ад даты рэгістрацыі заявы - 11 траўня да даты правядзення пікету - 26 траўня, мінула б 15 належных па закону дзён. Аднак, гарвыканкам палічыў, што калі ад дваццаці шасці адняць адзінаццаць - атрымаецца чатырнаццаць. Наўрад ці элементарная арыфметычная памылка стала вынікам слабой адукаванасці ўсіх членаў выканкама. Відаць, А.Пашкевіч і кампанія, узялі на сябе місію вядомага героя Расеі Івана Сусаніна і дэманструюць жаданне завесці лукашэнкаўскі рэжым у «балота» татальнага маразму.

Як стала вядома ПАГОНІ, заснавальнік «Рэпарцёра», маючы жаданне дапамагчы гарадскім уладам у іх «сусанінскім» памкненні, мае намер правесці несанкцыянаваную акцыю пратэсту каля гарвыканкама 25 траўня ў сярэдзіне дня.

**Раман Сянкевіч**

## Зварот да жыхароў г.Гродна

**Паважаныя гараджане!**

**З 25 траўня па 25 чэрвеня 2000 года мы распачынаем чарговы этап дабрачыннай акцыі «Наш горад». Акцыя будзе праводзіцца Гарадзенскай арганізацыяй шматдзетных маці, няпоўных сем'яў і сем'яў, якія маюць дзяцей-інвалідаў «Крыніца Міласэрнасці», а таксама гарадзенскімі прадпрымальнікамі. У гэтым годзе дапамога будзе аказвацца па спісах, якія ёсць ў «Крыніцы Міласэрнасці». Дапамогу атрымаюць не толькі шматдзетныя сем'і, але і тыя, хто маюць у ёй надзвычайную патрэбу. Рэчы, прадукты харчавання, посуд, цацкі будуць збірацца на рынках і ў самім горадзе.**

У шматлікіх малазабяспечаных сем'ях няма нават дзіцячых ложкаў, таму дзеці спяць на падлозе. Калі ў каго ёсць непатрэбная мэбля (сталы, ложкі, крэслы), бытавая тэхніка і д.п., звяртайцеся. Мы знойдзем гэтым рэчам новых, удзячных гаспадароў.

Рэчы будуць збірацца 26 і 27 траўня 2000 года - на рынку «Паўднёвы», 28 траўня - на Цэнтральным гарадскім рынку; па кватэрах - з 25 траўня па 25 чэрвеня паводле дамоўленасці. Ахвотныя здаць рэчы могуць зрабіць гэта штодня, з 25 траўня па 31 траўня 2000 года з 10.00 да 12.00 і з 16.00 да 18.00 у гатэлі «Нёман», п.330. Там жа тыя, хто маюць патрэбу ў дапамозе, могуць напісаць заяву-анкету наконт аказання дапамогі. Былая ва ўжытку рэчы, вялікая просьба, здаваць чыстымі і цэлымі. Пры вострай неабходнасці для дастаўкі рэчаў можам прадаставіць транспарт.

Першага чэрвеня, у Дзень абароны дзяцей, мы плануем зноў наладзіць свята для дзяцей са шматдзетных сем'яў і Дзіцячага дома. Будзем раздаваць квіткі на карусэлі, купляць ласункі ды інш. (у залежнасці ад нашых мажлівасцяў).

Даведкі наконт акцыі «Наш горад» можна атрымаць па тэлефонах: 31-30-62 (Марына Аляксандраўна, з 9.00 да 11.00), 47-01-75 (Марына Станіславаўна, з 18.30 да 19.00).

**Марына Самаіл, Старшыня Савета грамадскай арганізацыі «Крыніца Міласэрнасці»**

# Vox populi на кілаграмы

**Некалькі словаў наўздагон лісту *Аксаны Шумілы* і *Кацярыны Хакалы* ў ПАГОНІ №17(464) ад 18 траўня 2000 году.**

Найперш, што за «политический долг» кліча грамадзян Беларусі выбіраць ***расейскага*** прэзыдэнта? А тлумачэнне — побач: традыцыйная спасылка на звязанасць з Расеяй «всерьёз и надолго». Лаяльныя аўтахтоны рашуча асуджаюць някемлівых супляменнікаў, што не цямяць «гістарычнай неабходнасці» ***быцця калоніяй***. Ніжэй у лісце адстойваецца ***добраахвотны выбар***, зроблены на падставе «кратких двух-трёх предложений» *(!)* настаўніцы Ларысы Мікалаеўны Шаўчэнка . ***Чаго*** такі выбар можа быць варты — сапраўды зразумела для кожнага, у каго ёсць «голова на плечах». Ужо і не дзівішся, прачытаўшы, як дзве 9-класніцы робяць алюзіі на фізічную расправу над ***невядомым*** ім чалавекам, які, ратуй Божа, напісаў ***непрыемнае для іх***. Маецца на ўвазе, пэўна, што на такую расправу будзе хтосьці падбухтораны, магчыма, аднакласнікі ці знаёмыя. Гэта, відаць, і ёсць той самы высокі ўзровень ***адказнасці за свае ўчынкі***.

Цяжка ўявіць аўтарак допісу ці нават іх сяброў ***чытачамі*** ПАГОНІ. І адкуль, скажыце, дазналіся яны пра «крамольны» артыкул? Адкуль ідэя пісаць у газэту, якой не чытаеш? Мы ўжо бачылі, якім чынам яны гатовыя ***выбіраць прэзыдэнтаў***, дык ці не Ларыса Мікалаеўна ***у двух-трох каротких сказах*** арганізавала гэты ***«vox populi»***?

**Рыгор Юрскі**

# Змест, стыль і танальнасць...

**Уважліва, некалькі разоў, прачытала ў ПАГОНІ ад 18 траўня ліст дзевяцікласніцаў гарадзенскай школы N9 і прыйшла да высновы, што калі дзяўчаты перапісалі з падрыхтаванага тэксту - то гэта адна справа (лічу, што ліст напісаны дарослым і не вельмі адукаваным чалавекам). Але калі ў вучаніцаў дзевятага класа сапраўды такі светапогляд, то можна сказаць толькі адно: «Давучыліся!»**

З ліста я зразумела, што настаўніца спрабуе выхаваць у вучняў пачуццё «палітычнага абавязку». Выбары ва ўласнай краіне заўсёды лічыліся грамадзянскім абавязкам дарослых жыхароў гэтай краіны. У 15-гадовым узросце пад кіраўніцтвам гісторыка вучні «выбіралі» прэзідэнта суседняй краіны. Чый, які і перад кім гэты ваш абавязак? Мне гэта незразумела. Бо маем уласную, пакуль яшчэ, суверэнную краіну. Гістарычна склалася так, што некалькі стагоддзяў мы залежалі ад Расеі, але як доўга гэта будзе - невядома. Час пакажа. Далей вы пішаце, што наконт палітычнага жыцця Расеі ў вашым класе адбываліся спрэчкі, а на выбары ў Амерыцы вам «наплевать». Гэты «геройчны» жэст гаворыць пра вашу несвядомасць у палітычным жыцці Беларусі, бо гарантам суверэнітэту Беларусі была і Амерыка.

Нічога не ведаючы пра кандыдатаў у прэзідэнты, вы захапіліся справамі Пуціна, але чаму? Квітнеючай Расеі яшчэ няма. Пра мары і планы Пуціна чула і чытала, але ж гэта ў перспектыве. Сусветныя палітыкі з асцярогай выказваліся адносна выбараў у Расеі, а ваша настаўніца «в двухтрёх предложениях» растлумачыла класу, «кто есть кто», і вы ўсё адразу зразумелі. Зайздрошчу вам!

Усе жывыя істоты маюць галовы на плячах. Пра гэта паклапацілася прырода. А вось тое, што адбываецца ў галовах у 15 гадоў, залежыць і ад прыроды, і ад вашых бацькоў, і ад настаўнікаў, гэта праблемы ўсяго грамадства, таму што моладзь з'яўляецца яго часткай.

Што наконт моладзі, то якое грамадства ў краіне - такая і моладзь. І таму сярод моладзі ёсць наркаманы і алкаголікі, ёсць здольныя і не вельмі. Моладзь - будучыня Беларусі і яе смутак ды сорам.

Моладзь розная, і праблемы яе розныя. Вось толькі праблемы трэба вырашаць, а адносіны - высвятляць. Якім чынам гэта робіцца - залежыць ад інтэлігентнасці асобаў, якія ў гэтым удзельнічаюць, ад ведання імі крымінальнага кодэкса і г.д.

Пагроза на адрас аўтара артыкула гаворыць пра ваша выхаванне і няздольнасць пераканаць чытачоў у сваіх поглядах.

І апошняе. Баяцца вам сапраўды няма чаго, бо вам ніхто не пагражае. Ні абураныя чытачы ПАГОНІ, ні аўтар артыкула, ні, тым больш я, не будзем сустракаць вас «возле дома». Я таксама лічу, што напісала праўду, таму і падпісваюся.

**Ірына Барысевіч,**
**Парэчча**

# Каб курс стаяў і грошы былі!

**Цэнтральны банк Расійскай Федэрацыі выдзеліць Нацыянальнаму банку Беларусі на падтрыманне беларускага рубля крэдыт у памеры да 200 мільёнаў долараў. Пра гэта паведаміла 23 мая расійская дзелавая газета «Ведомости» са спасылкай на рашэнне прайшоўшага нядаўна Міжбанкаўскага валютнага савета дзвюх краін.**

Прычым, як сцвярджае газета, выдзяленне крэдыту не будзе залежаць ад згоды Нацбанка на захаванне за расійскім Цэнтрабанкам статуса адзінага эмісійнага цэнтра. Паводле слоў крыніцы «Ведомостей», блізкай да перамоўнага працэсу, крэдыт быў абяцаны «у патрабуемых межах». Для прадастаўлення крэдыту будзе заключана мэтавае пагадненне, умовы якога яшчэ трэба распрацаваць. У любым выпадку патрабаванне захаваць за Цэнтрабанкам статус адзінага эмісійнага цэнтра з выдзяленнем крэдыту не звязваецца. «Такога кшталту рэчы за грошы не прадаюцца, - заўважыла крыніца газеты ў Цэнтрабанку, - лепш няхай яны самі паступова прыдуць да гэтай думкі».

Такім чынам, адзначаюць «Ведомости», довады ліберальнага крыла Цэнтрабанка, якое выступае супраць выдзялення крэдыту на падтрыманне беларускага рубля, не былі пачуты. Цікава, што згода была атрымана толькі пасля звальнення дырэктара дэпартамента замежных аперацый Цэнтрабанка Андрэя Чарапанава, які папярэджваў аб згубнасці фінансавай падтрымкі беларускага рубля. У нядаўнім каментары адносна расійска-беларускіх перамоў па ўвядзенню адзінай валюты Чарапанаў заявіў «Ведомостям», што крэдыт нельга выдаваць па дзвюх прычынах - з-за яго відавочнай незваротнасці і таму, што, падтрымліваючы беларускі рубель, Расія павысіць яго кошт пры абмене грашовых знакаў, які будзе праводзіцца ў выпадку, калі саюзнай валютай стане расійскі рубель. У пагадненні, перададзеным на разгляд урадаў дзвюх дзяржаў, мяркуецца, што адзінай валютай стане менавіта расійскі рубель.

Як пішуць «Ведомости», «пытанне аб эмісійным цэнтры, як і планавалася абодвума бакамі, у праекце пагаднення адкладзена да прыняцця канстытуцыйнага акта».

**Аляксей Арэшка**

**На 24 мая Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:**

**Долар ЗША - 545 беларускіх рублёў; еўра - 493,77; нямецкая марка - 252,46; расійскі рубель - 19,27.**

**У параўнанні з папярэднім днём афіцыйны курс долара ЗША вырас на 5 рублёў.**

**На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску раніцай 24 мая долар ЗША куплялі па 965-968 і прадавалі па 972-977 рублёў.**

**У параўнанні з папярэднім днём курс куплі вырас на 3-5, продажу - на 2 рублі.**

**У абменных пунктах камерцыйных банкаў долар куплялі па 950-955 і прадавалі па 960-965 рублёў.**

**У параўнанні з папярэднім днём курс не змяніўся.**

# Літоўцы пратэстуюць супраць прызначэння Усхопчыка

**Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Гаркун атрымаў ноту пратэсту з Міністэрства замежных спраў Літоўскай Рэспублікі.**

Як паведамляе прэс-цэнтр грамадскай ініцыятывы «Хартыя'97», адмысловая заява літоўскага МЗС датычыцца прызначэння намеснікам міністра абароны Беларусі генерал-лейтэнанта Уладзіміра Усхопчыка. «Генерал-лейтэнант беларускай арміі, супраць якога ўзбуджана крымінальная справа ў суседняй Літве, днямі пачне выконваць новыя абавязкі», - гаворыцца ў дакуменце.

У 1991 годзе, адзначае літоўскі МЗС, У.Усхопчык камандаваў у Літве дівізіяй савецкай арміі, салдаты і тэхніка якой «займаліся задушэннем народных выступленняў супраць савецкай акупацыі». Тады ў Вільнюсе загінулі 6 чалавек, некалькі дзесяткаў былі паранены. Супраць генерала Усхопчыка была ўзбуджана крымінальная справа, аднак ён паехаў з Літвы ў Беларусь, дзе стаў камандаваць армейскім корпусам у Бабруйску. Цяпер жа ён атрымаў пасаду намесніка міністра абароны з перспектывай стаць міністрам.

«Гэтае прызначэнне не адпавядае духу добрасуседства і можа мець негатыўныя наступствы для двухбаковых адносінаў», - гаворыцца ў заяве літоўскага МЗС.

**Наталля Кулагіна**

# Саюз Беларусі ды Расеі ператворыць беларусаў у людзей ніжэйшага гатунку

**У газеце ПАГОНЯ ад 27 студзеня бягучага года быў змешчаны артыкул пад назвай «Гуляць у аб'яднанне з Пуціным небяспечна...». У ім вялася гаворка пра тое, што апошнім часам Расея стала адыходзіць ад дэмакратычных рэформаў, вяртацца да былых часоў камуністычнага рэжыму, да падпарадкавання іншых народаў пад сваю ўладу пры дапамозе зброі. Невыпадкова новы прэзідэнт свае першыя захады скіраваў на вайсковыя аб'екты, туды дзе куюць зброю. На адным са студзеньскіх пасяджэнняў урада Расеі былі ўнесены некаторыя змены ў расходную частку бюджэту, дзе вырашана зменшыць расходы на закуп зерня і ў паўтары разы павялічыць выдаткі на ўзбраенне. Замест хлеба расіяне атрымаюць танкі ды ракеты, якія зноў будуць таптаць землі іншых народаў.**

Пра экспансіянісцкі настрой Расеі ў дачыненні да суседніх народаў, у тым ліку і Беларусі, сведчаць факты найноўшай гісторыі. Ідзе актыўны захоп кіруючых пасадаў ва ўрадзе Беларусі расіянамі. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі (радыё, тэлебачанне) удзень і ўначы, пераконваюць жыхароў рэспублікі, што толькі тады мы будзем жыць шчасліва, калі аб'яднаемся з Расеяй, што нас там радасна і сардэчна чакаюць. Адначасова, каб паказаць, што быццам бы ўсе жыхары Беларусі толькі і мараць, каб аб'яднацца з Расеяй, на вуліцах гарадоў часта праводзяцца апытанні грамадзянаў, ці жадаюць яны аб'ядноўвацца з братнім расейскім народам. І хіба што ўсе станоўчыя адказы трапляюць на экраны нашых тэлевізараў.

І гэта можа зразумець. Перад тэлекамерай чалавек не заўсёды скажа тое, што на самой справе думае. З-за боязі за магчымыя наступствы, толькі адзін з тысячы можа сказаць напраўду тое, што думае. Для гэтага і існуюць закрытыя галасаванні. А вось як сустракаюць нашых грамадзянаў у Расеі. Нягледзячы на тое, што ўжо даўно існуе дамова, падпісаная прэзідэнтамі Беларусі і Расеі аб роўных правах грамадзянаў Беларусі з расейскімі грамадзянамі, беларусы як былі чужынцамі ў Расеі, так імі і засталіся.

Так, у 20 гадзін вечара 29 студзеня бягучага года, па першай праграме расейскага тэлебачання, было падрабязна паказана, якія «роўныя» правы атрымалі беларусы, што паехалі ў Маскву з надзеяй знайсці працу. Здымкі вяліся непасрэдна з будаўніцтва жылога дома ў Маскве для работнікаў маскоўскай міліцыі. Дык вось што паведамілі нашы грамадзяне расейскім тэлэрэпарцёрам. Беларусы, як і каўказскія грамадзяне альбо чачэнцы, павінны па прыбыцці ў Маскву рэгістравацца ў маскоўскай міліцыі. Рэгіструюць толькі на тры дні, а каб дзесьці ўладкавацца на працу на больш працяглы тэрмін, нашы грамадзяне вымушаныя рабіць гэта патаемна, альбо ісці на ўсялякія ўступкі.

Напрыклад, на будоўлі таго ж самага дома ім даюць самую цяжкую і брудную працу. Плацяць ім значна меней, чым расіянам за такі ж самы аб'ём працы. Так, адзін з нашых небаракаў адважыўся расказаць перад тэлекамерай, што за тыдзень працы яму далі толькі трыццаць рублёў, у той час як абяцалі плаціць па 250 даляраў у месяц. Рамонт будынка міліцыі праводзілі зусім бясплатна. Кіраўніцтва будоўлі выкарыстоўвае грамадзянаў Беларусі ў сваіх мэтах папросту задарма. Паўсюль - безупынныя ашуканствы. І беларусы павінны ўсё гэта цярпець, каб не згубіць хаця б нейкую працу.

А вось такім чынам афіцыйныя ўлады Масквы адрэагавалі на вышэйапісаную перадачу па тэлебачанні. Акурат заўтра падышлі да будаўнічай пляцоўкі аўтобусы і ўсіх нашых небаракаў кудысьці вывезлі, добра яшчэ, калі адаслалі дамоў, а то і на «ўсход» маглі павезці. Акрамя таго, як паведаміла расейскае тэлебачанне 5 лютага бягучага года, мэр Масквы Лужкоў ўнёс прапанову: «Усім неграмадзянам Масквы, у тым ліку і беларусам, якія прыязджаюць у Маскву на працу, нашываць спецыяльныя знакі». Як у час вайны нашывалі фашысты габрэям. Вось з якой «гарачай» любоўю сустракаюць афіцыйныя асобы Масквы нашых грамадзянаў пасля падпісання вышэйназванай дамовы.

Штосьці падобнае прадэманстраваў Уладзімір Пуцін падчас інаўгурацыі сёмага траўня бягучага года адносна Аляксандра Лукашэнкі. На гэтае мерапрыемства былі запрашаныя ўсе губернатары расейскіх рэгіёнаў, нават трэнер Пуціна па самба. А вось прэзідэнт саюзнай дзяржавы - з «аднолькавымі» правамі з расіянамі - застаўся незаўважаным, як потым сцвярджала прэса, трапіў у разрад «иностранцев» і быў пастаўлены ніжэй расіяніна-трэнера.

Беларусы сёння не лічаць расіянаў ворагамі. Мы заўсёды паважалі суседнія народы не толькі за мяжою, але і ў сябе на радзіме. Мы былі і застаемся талерантнымі людзьмі. Аднак такога стаўлення да нашага народа ні адзін сумленны грамадзянін нашай рэспублікі не пацерпіць. Таму і жыць пад уладаю Расеі ніколі не мелі жадання. Хаця паважаны Аляксандр Рыгоравіч увесь час спасылаецца, што аб'яднанне з Расеяй - гэта волевыяўленне ўсяго беларускага народа, згодна з рэферэндумам 1996 года. Дарэчы нагадаць, што на гэтым рэферэндуме ўзнімалася зусім іншае пытанне.

А тое, што многія расіяне прагнуць, каб Беларусь увайшла ў склад Расеі, дык гэта ж не з братэрскіх пачуццяў. Яшчэ ў снежні мінулага года расейскае тэлебачанне транслявала перадачы, як жыхары Масквы выйшлі на вуліцы з патрабаваннямі: «Дайте нам быстрей дешёвые белорусские товары»! А потым запатрабуюць бясплатную беларускую рабочую сілу. Вось што ім патрэбна. Такая ж прыкладна задумка і вышэйшага расейскага кіраўніцтва. Ім патрэбныя не мы, жыхары Беларусі, а бясплатны калідор на Захад ды нашыя прамысловыя магутнасці. Вось і водзяць нас «вакол пальца». Пацверджанне гэтаму - саюзны бюджэт, які так і не з'явіўся на апошнім пасяджэнні саюзнага парламента, ды і тыя бюджэты, якія раней прымаліся, расейскі бок выконваць не спяшаецца.

Відаць, яшчэ не позна ўстрымацца з аб'яднаннем, пакуль у нас засталася свая грашовая адзінка ды свой рэспубліканскі бюджэт. Трэба неадкладна скончыць размовы на тэму аб'яднання, бо гэтыя размовы толькі збіваюць з панталыку нашых грамадзянаў. Многія думаюць, што хутка з Расеі пойдуць у Беларусь цягнікі з прадуктамі ды іншымі таварамі і пасыплецца манна нябесная. Таму і працуюць «спусціўшы рукавы». І грошы беларускія не шануюць, а як мага хутчэй пераводзяць у валюту. Адна з прычынаў - баяцца, што пры абмене на расейскія нічога не атрымаюць...

**Зыкфрыд Кузьма,**
**ветэран працы**

ПРАБЛЕМА

# Канцэпцыя стварэння Беларускага Нацыянальнага універсітэта

**Больш чым 20 тысяч подпісаў грамадзян сабрана на сёння пад прапановай адкрыць Беларускі нацыянальны універсітэт (БНУ). Збор подпісаў, які праводзіць грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ), працягнецца да 1 чэрвеня, пасля чаго яны будуць перададзены кіраўніцтву краіны.**

**Паводле слоў старшыні ТБМ Алега Трусава, прадстаўнікі таварыства гатовы ўручыць сабраныя подпісы асабіста Аляксандру Лукашэнку ў рамках грамадска-палітычнага дыялога, аднак пры адной умове: на парадак дня дыялога павінна быць уключана пытанне аб рэальным статусе беларускай мовы і стварэнні Нацыянальнага універсітэта. «Калі гэта адбудзецца, мы гатовы ўдзельнічаць у дыялогу і абвясціць праект канцэпцыі БНУ і спіс яго будучых выкладчыкаў», - сказаў А.Трусаў. У адваротным выпадку, адзначыў ён, кіраўніцтва ТБМ не будзе браць удзел у грамадска-палітычным дыялогу, каб «не быць статыстамі ў нейкай невядомай для нас палітычнай гульне».**

**А.Трусаў таксама назваў «не вытрымліваючымі ніякай крытыкі» заявы міністра адукацыі Васіля Стражава аб тым, што ў адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта няма патрэбы.**

## Прадмова

У артыкуле 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пазначана: «Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання».

На жаль, гэты артыкул нашага Галоўнага закону не дзейнічае ў поўным аб'ёме, бо на Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе б усе студэнты навучаліся на роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адпаведны моўны рэжым. Тыя нешматлікія фармальныя беларускамоўныя плыні, што засталіся на некаторых гуманітарных факультэтах некалькіх ВНУ у разлік браць нельга, бо поўнае выкладанне па-беларуску ўсіх дысцыплінаў (асабліва замежных моваў) там адсутнічае.

У сувязі з гэтым ТБМ імя Ф.Скарыны на працягу апошніх трох гадоў патрабуе ад кіраўніцтва краіны адкрыцця ў Менску новага Беларускага Нацыянальнага універсітэта (далей БНУ), у якім усе дысцыпліны без выключэння выкладаліся б па-беларуску, а таксама на дзяржаўнай беларускай мове дзейнічала б уся сістэма справаводства (уключна з бухгалтэрыяй) з філіяламі ў тых вялікіх беларускіх гарадах, дзе жыве болей як 100 тысяч жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя ВНУ.

На сёння ТБМ мае каля 14 000 подпісаў грамадзянаў Беларусі ды іншых краінаў з патрабаваннем адкрыць на Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову, у якой усе дысцыпліны (у тым ліку і замежныя мовы) будуць выкладацца на дзяржаўнай беларускай мове.

На жаль, звароты ТБМ да кіраўнікоў беларускай дзяржавы А.Лукашэнкі ды С.Лінга засталіся дагэтуль без адказу, і таму было вырашана ўзнавіць збор подпісаў жыхароў нашай краіны з патрабаваннем адкрыцця БНУ. А напрыканцы мінулага года пры ТБМ была арганізавана ініцыятыўная група па стварэнні БНУ.

У адпаведнасці з рашэннем лістападаўскай Рады ТБМ і з асабістымі пажаданнямі ў склад ініцыятыўнай групы зараз уваходзяць 42 асобы. Сярод іх - акадэмікі Радзім Гарэцкі ды Сямён Шарэцкі, член-карэспандэнт НАН, былы прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч, дактары навук ды прафесары Алесь Астроўскі, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Крукоўскі, Уладзімір Кулажанка, Алесь Краўцэвіч, Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Генадзь Цыхун, Генадзь Пятроўскі, знаныя беларускія пісьменнікі Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Васіль Зуёнак, старшыня ТБШ Алесь Лозка, кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны Любоў Канапляннік, былы амбасадар Беларусі ў Германіі, дацэнт Пятро Садоўскі ды іншыя вядомыя на Беларусі выкладчыкі ВНУ з Менска, Гродна, Брэста, Віцебска ды Горак. Удзельнікі групы ўжо распрацавалі праект Статута БНУ і зараз ствараюць яго Канцэпцыю і структуру.

## Канцэпцыя БНУ

Удзельнікі ініцыятыўнай групы выказаліся за стварэнне менавіта новай навучальнай установы з улікам дэмакратычнага досведу лепшых універсітэтаў Еўропы ды ЗША. Выкладчыкі ды студэнты мусяць свядома, без усялякага адміністратыўнага прымусу выбіраць беларускую мову навучання як адну з самых буйных ды распрацаваных славянскіх моваў. Акрамя таго, студэнты ўсіх факультэтаў абавязкова вывучаюць лацінскую і ангельскую мовы, а таксама на ўласны выбар адну з класічных еўрапейскіх моваў (французскую, нямецкую, гішпанскую) і адну са славянскіх моваў (балгарскую, чэшскую, сербскую, польскую, украінскую, рускую).

Студэнты кожнага факультэта мусяць таксама на першым курсе вывучаць гісторыю сваёй асноўнай спецыяльнасці, якая павінна грунтавацца на мясцовых беларускіх і агульнаеўрапейскіх прыкладах. Бо сучасныя беларускія студэнты (хімікі, біёлагі ці фізікі) не ведаюць, як гэтыя навукі развіваліся на тэрыторыі Беларусі, а таксама пра сваіх найбольш дасведчаных у вышэйзгаданых навуках землякоў.

Галоўнай мэтай БНУ ёсць падрыхтоўка кадраў беларускай эліты для дзяржаўных ды навукова-даследчых установаў Беларусі. Гэтага вымагае гісторыя ўсёй беларускай педагагічнай навукі.

Першымі цэнтрамі беларускай адукацыі сталі старажытныя гарады Беларусі Полацак і Тураў. Дзейнасць Ефрасінні Полацкай ды Кірылы Тураўскага ўзняла Беларусь на ўзровень перадавых еўрапейскіх краінаў, паказала ўсяму свету, што ў цэнтры Еўропы пачала фармавацца новая этнічная і палітычная супольнасць. У XIII - XV стагоддзях да вышэйзгаданых адукацыйных цэнтраў далучыліся Наваградак (разам са славутым Лаўрышэўскім манастыром), Вільня (новая беларуская сталіца) і Смаленск (найбуйнейшы асяродак беларускага летапісання). У XV-XVI стагоддзях беларусы ўжо навучаюцца ў еўрапейскіх універсітэтах і становяцца навукоўцамі еўрапейскага ўзроўню.

У XVI стагоддзі ў Беларусі існавалі школы еўрапейскага ўзроўню адукацыі. У 1579 годзе ў Вільні быў адкрыты універсітэт пад назвай Акадэмія, дзе вышэйшую адукацыю атрымлівалі юнакі з Беларусі і Літвы. Спачатку універсітэт меў тры факультэты. Студэнты ўсіх факультэтаў вывучалі беларускую мову. Ва універсітэт прымаліся выхаванцы сярэдніх школаў Беларусі, дастаткова падрыхтаваныя да ўспрыняцця дысцыплінаў, што вывучаліся ва ўсёй Еўропе. У Беларусі ў XVI-XVIII стагоддзях існавала шырокая сетка сярэдніх школаў, сярод якіх асабліва вылучаліся езуіцкія калегіі ды піярскія вучылішчы. Напрыканцы XVIII стагоддзя ва універсітэце былі адкрытыя фізічны і медычны факультэты. Свой унёсак у развіццё вышэйшай адукацыі Беларусі зрабіла полацкая езуіцкая акадэмія, адчыненая ў 1812 годзе, а таксама Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Аднак царскі рэжым зачыніў усе гэтыя вышэйшыя навучальныя ўстановы з-за рэвалюцыйных поглядаў студэнтаў і часткі прафесуры.

Тым не менш, традыцыі нацыянальнай вышэйшай адукацыі захаваліся. У 1918 годзе ў Менску быў адкрыты Педагагічны інстытут, а ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў рашэнне аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта. І ўрэшце, у 1921 годзе ў БССР пачаў сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны універсітэт, дзе распачалася падрыхтоўка нацыянальных навуковых ды педагагічных кадраў. Для жыхароў Заходняй Беларусі значную ролю адыграў Пражскі універсітэт, дзе мела магчымасць навучацца таленавітая беларуская моладзь. Аднак сталінскія рэпрэсіі і другая сусветная вайна цалкам разбурылі і знішчылі нацыянальную вышэйшую школу. Дастаткова згадаць, што ў 50-70 гадах XX стагоддзя працэнт беларусаў сярод выкладчыкаў нашых ВНУ, асабліва сярод дацэнтаў і прафесараў, быў меншы за 50 працэнтаў. Таму беларуская мова фактычна была забароненая для ўжытку ў ВНУ, а яе носьбіты пераследаваліся. Варта ўзгадаць спробу беларускіх студэнтаў філфака БДУ дамагчыся выкладання па-беларуску некаторых дысцыплінаў і што з гэтым атрымалася.

Толькі пасля абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай, яна пакрысе стала вяртацца ў беларускія ВНУ, асабліва на гуманітарныя факультэты. Таму зараз мы маем дастатковую колькасць дактароў і кандыдатаў навук, прафесараў і дацэнтаў, каб цалкам укамплектаваць усе факультэты БНУ высокапрафесійнымі, беларускамоўнымі кадрамі. Дарэчы, некаторых выкладчыкаў, якія на высокім узроўні маюць магчымасць выкладаць па-беларуску, можна запрасіць з іншых краінаў (Расеі, Летувы, Польшчы, ЗША і Вялікабрытаніі).

Адной з галоўных хібаў савецкай адукацыі быў татальны ваяўнічы атэізм, які асабліва выяўляўся ў ВНУ.

Уся сістэма выкладання ў БНУ будзе грунтавацца на спрадвечных хрысціянскіх каштоўнасцях, таму кожны студэнт мусіць ведаць асновы хрысціянскай маралі, грунтоўна вывучаць Біблію ды іншыя святыя кнігі, разбірацца ў асноўных хрысціянскіх дагматах розных канфесіяў. Студэнты гуманітарных факультэтаў абавязаны праслухаць курсы па гісторыі іудаізму і ісламу, а таксама ведаць іх ролю ў нашай гісторыі.

## Структура БНУ

БНУ - вышэйшая навучальная ўстанова, у якой рэалізуюцца прынцыпы акадэмічнай свабоды.

Папярэдне прыйшлі да згоды ў тым, што БНУ павінен складацца з наступных факультэтаў: юрыдычнага, літаратурнага, філасофскага, прыродазнаўчага, гісторыка-лінгвістычнага, фізіка-матэматычнага. Колькасць студэнтаў мусіць быць абмежаванаю да 3-3,5 тысяч чалавек. Галоўная мэта універсітэта - падрыхтоўка кадраў для беларускай нацыянальнай эліты ў наступным стагоддзі. Мяркуецца, што выпускнікі БНУ павінны стаць кіраўнікамі ў розных сферах палітыкі, культуры, адукацыі ды гаспадаркі незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

Юрыдычны факультэт будзе мець аддзяленні міжнароднага, грамадзянскага ды адміністратыўнага права. Сярод прапанаваных кафедраў трэба вылучыць кафедру міжнароднага марскога і паветранага права, а таксама кафедру міжнароднага экалагічнага права.

Мэта літаратурнага факультэта - рыхтаваць кадры прафесійных перакладчыкаў, літаратурных крытыкаў і журналістаў, рэдактараў ды спецыялістаў выдавецкай справы.

Філасофскі факультэт папярэдне складаецца з двух аддзяленняў: культуралогіі і тэалогіі. Прычым аддзяленне тэалогіі можна размясціць у старажытным Пінску, дзе пашырана дзейнасць розных канфесіяў і нават ёсць адпаведны будынак былога езуіцкага калегіума XVII стагоддзя.

Эканамічны факультэт, акрамя аддзялення банкаўска-фінансавай справы, мусіць мець кафедру дэмаграфіі, бо, на жаль, Беларусь зараз мае адмоўнае сальда нараджальнасці.

Прыродазнаўчы факультэт утрымлівае два буйных аддзяленні: біялагічнае і геолага-геаграфічнае. У перспектыве да іх далучыцца і экалагічнае з выхадам на чарнобыльскую праблему.

На гісторыка-лінгвістычным факультэце плануецца мець тры аддзяленні: гістарычнае, музейна-архіўнае і лінгвістычнае.

Сярод найважнейшых кафедраў трэба адзначыць кафедры вайсковай гісторыі Беларусі, гісторыі архітэктуры і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, а таксама кафедры балцкіх, славянскіх і ўсходніх моваў (арабская, кітайская, фарсі, турэцкая і японская мовы). Частка лінгвістычнага аддзялення з кафедрай балтыйскіх і славянскіх моваў можа размясціцца ў Лідзе - горадзе, блізкім да Польшчы і Летувы.

Фізіка-матэматычны факультэт мае на мэце распрацоўваць розныя тэарэтычныя накірункі сучаснай навукі. Студэнты гэтага факультэта будуць праходзіць доўгатэрміновыя стажыроўкі ў лепшых універсітэтах Еўропы і ЗША, а таму мусяць вольна валодаць ангельскай мовай.

Падмуркам практычнай падрыхтоўкі студэнтаў БНУ з'яўляюцца НАН Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, Нацыянальная бібліятэка, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальны архіў. БНУ мусіць шчыльна супрацоўнічаць з адзіным у Беларусі цалкам беларускамоўным гуманітарным ліцэем імя Якуба Коласа, лепшыя выхаванцы якога будуць аўтаматычна залічвацца ў шэрагі студэнтаў БНУ.

Рэктар БНУ абіраецца таемным галасаваннем Вучонай рады універсітэта. Ва універсітэце дзейнічаюць еўрапейскія нормы памеру працы для выкладчыкаў і 10-бальная сістэма адзнакі ведаў студэнтаў.

Прапануецца надаць БНУ імя Францішка Багушэвіча, вядомага беларускага пісьменніка, юрыста, публіцыста, чалавека, які ўпершыню слову «беларус» надаў палітычнае і нацыянальнае значэнне.

## На вучобу ў туманны Альбіён

**Брытанская адукацыя перабудоўваецца і становіцца больш даступнай для студэнтаў з-за мяжы, у тым ліку для жыхароў Беларусі. Пра гэта было заяўлена 23 мая на сустрэчы дырэктара па развіццю прыватнай англійскай школы-пансіёна «Роял Волверхэмптан» Сары Сандэрс з прадстаўнікамі грамадскасці Менска.**

**Сустрэча праходзіла ў менскім прадстаўніцтве Брытанскага савета. Сп. Сандэрс знаходзіцца ў сталіцы Беларусі з кароткім візітам. Яна плануе сустрэцца з супрацоўнікамі кампаній, якія працуюць у галіне адукацыі за мяжой, пазнаёміцца з патэнцыяльнымі студэнтамі сваёй школы і іх бацькамі, а таксама наведаць мінскую прыватную школу «КСВ». Гэтая паездка праходзіць у рамках праграмы па змяненню аблічча брытанскай адукацыі з мэтай зрабіць навучальныя ўстановы Вялікабрытаніі больш адкрытымі і даступнымі для студэнтаў з-за мяжы.**

**Праграма з'яўляецца часткай глабальнай ініцыятывы, вылучанай прэм'ер-міністрам краіны Тоні Блэрам у чэрвені 1999 года і накіраванай на павелічэнне долі Злучанага Каралеўства на міжнародным рынку адукацыі. У прыватнасці, да 2005 года колькасць замежных студэнтаў у брытанскіх навучальных установах плануецца павялічыць на 75.000 чалавек і давесці іх агульную колькасць амаль да 360.000, што складзе 25 працэнтаў міжнароднага рынку.**

**Пакуль прадстаўнікоў Беларусі сярод замежных студэнтаў, якія вучацца ў Вялікабрытаніі, няшмат: па даных консульскага аддзела англійскага пасольства, за ўвесь 1999 год у Менску было выдадзена 115 студэнцкіх віз. Аднак у Брытанскім савеце лічаць, што для беларускіх студэнтаў праграма будзе азначаць значнае пашырэнне магчымасцяў атрымаць якасную адукацыю. На жаль, не чакаецца павелічэння колькасці беларусаў, якія вучацца на Брытанскіх астравах за кошт англійскіх падаткаплацельшчыкаў. Скажам, летась толькі трое грамадзян Беларусі атрымалі стыпендыю брытанскага ўрада «Чыўнінг», якая дазваляе каля года займацца ў англійскіх універсітэтах і атрымаць вучоную ступень магістра. Астатнія студэнты накіраваліся ў Вялікабрытанію за ўласны кошт, скарыстаўшы дапамогу розных агенцтваў і фірм.**

**Дарэчы, адукацыю ў Вялікабрытаніі нельга назваць таннай. Напрыклад, навучанне ў школе, якую прадстаўляе Сара Сандэрс, каштуе каля 12 тысяч фунтаў стэрлінгаў (20.000 долараў ЗША) у год (без уліку камісійных турфірмы або агенцтва). Нядзіўна, што сп. Сандэрс различвае ў лепшым выпадку на тое, што ў яе школу штогод будуць прыязджаць адзін-два вучні з Беларусі.**

**Цікава, што навацыі ў сістэме брытанскай адукацыі не азначаюць увядзення нейкіх ільгот для студэнтаў, якія жадаюць атрымаць англійскія візы. Паводле слоў намесніка кіраўніка дыпламатычнай місіі Марка Пеціка, консульская служба пасольства прымае да ўвагі пажаданні, выказаныя брытанскім прэм'ер-міністрам, але ў сваёй працы будзе кіравацца перш за ўсё іміграцыйнымі правіламі Вялікабрытаніі, якія застаюцца нязменнымі. Такім чынам, маладыя людзі, якія звяртаюцца ў пасольства за студэнцкай візай, па-ранейшаму будуць праходзіць гутарку і прадастаўляць у консульскую службу розныя даведкі і пацвярджальныя дакументы па запатрабаванню супрацоўнікаў візавага аддзела.**

**Юрый Шырокі**





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Хто ў хаце гаспадар? - «Нёман»!!!

## 22 траўня. «Тарпеда-Кадзіна», Магілеў - «Ліда» 2:0
## 23 траўня. «Нёман» - «Камунальнік» 8:0

**Васемнаццаць - чатыры. Менавіта так выглядаюць суадносіны забітых і прапушчаных галоў гарадзенскага «Нёмана» пасьля чарговай «хатняй» перамогі з буйным лікам. З такім зайздросным паказчыкам каманда Сяргея Саладоўнікава пасьля сёмага тура першынства краіны ідзе на другім месцы (14 ачкоў).**

Дзьве папярэднія сёлетнія сустрэчы на сваім полі гарадзенцы выйгралі з буйным лікам 3:0. У сваю чаргу госьці ў гэтым сезоне на выезьдзе не забівалі аніводнага разу, ды ў дадатак да ўсяго не выйгравалі на выезьдзе 32 гульні запар! А таму большасьць гарадзенскіх заўзятараў чакала чарговай хатняй вікторыі «нёманцаў». Але каб такой!

Галы ў гэтай сустрэчы забіваліся на любы густ. У першым тайме спачатку «мужычок з кулачок» Крыкораў замкнуў флангавы прастрэл зьлева, затым Давыдаў рэалізаваў пенальці. Гэты ж расейскі нападнік напрыканцы тайма яшчэ раз апынуўся ў патрэбным месцы і патроіў лік.

На пачатку другога тайма кутні ў выкананьні Юйко знаходзіць галаву таго ж Давыдава - 4:0. Праз некалькі хвілінаў забівае яго партнэр па атацы Дзенісеня - 5:0. Затым выхад трох «нёманцаў» на двух «камунальнікаў» завяршае Петрашэвіч - 6:0. Пас-цукерачку ад Юйко скарыстоўвае Тарашчык - 7:0. Падводзіць рысу лепшы футбаліст каманды леташняга сезону Сяргей Палякоў - 8:0. Адметна, што ўсе свае мячы сёлета ён забіў пасьля выхадаў на замену.

Што да «Камунальніка», то яго футбалісты да апошняй хвіліны імкнуліся забіць гол прэстыжу, але толькі двойчы, ды і то з дальняй дыстанцыі небясьпечна білі па браме Альберта Рыбака. Пры гэтым «Нёман» узорна выкарыстоўваў контратакі - амаль усе галы гарадзенцы забівалі пры колькаснай перавазе ў чужой штрафной пляцоўцы! І калі б не змарнаваныя выхады сам-насам з слонімскім брамнікам Алега Кірэні, Аляксандра Дзянісені, Алега Радушкі, калі б не штанга пасьля «стрэлу», бадай, лепшага ў складзе каманды Віктара Юйко - вярталіся б слонімцы з куды большымі дзюркамі ў сваёй «камунальнай» гаспадарцы.

Разам з тым, «Нёману» хапіла і васьмі галоў, каб абнавіць свой рэкорд выніковасьці ў адной гульні. Дагэтуль больш за пяць галоў у першынстве краіны гарадзенцы не забівалі...

Акрамя дасягнутага выніку, не могуць не радаваць і новыя тэндэнцыі ў гульні каманды. Куды больш надзейна пачала дзейнічаць абарона, дзе разам з «дзядзькам» Сяргеям Мірошкіным шчыруюць маладыя таленавітыя Раўнейка і Надзіеўскі ды дасьведчаны Крыванос.

Куды больш вострa сёлета гуляюць паўабаронцы, у якіх усё часцей атрымліваецца абвастраць гульню дакладнымі «вертыкальнымі» пасамі. Досыць удала ў цэнтры трымаюць ніткі гульні Тарашчык і Кірэня, на флангах не даюць спакою супернікам Юйко (безумоўна, каштоўны набытак) і Крыкораў.

І, што самае прыемнае - пачалі забіваць нападнікі. У тым, што «Нёман» мае пакуль лепшы ў Лізе паказчык па забітых мячах, немалая іх заслуга. Шэсьць галоў у сямі матчах забіў Палякоў, не пакідае поле апошнім часам без мяча Давыдаў, свой першы мяч забіў Дзянісеня. А калі залечыць траўму яшчэ і Барысейка!.. Вось, напэўна, дзе радуецца бамбардырская душа Сяргея Саладоўнікава!

Разам з тым, сьпяваць дыфірамбы пакуль рана. Каманду чакаюць яшчэ сустрэчы з фаварытамі турніру - мазырскай «Славіяй» (першае месца, 17 ачкоў пасьля сямі гульняў), сталічнае «Дынама» (3-е месца, 14 ачкоў пасьля шасьці гульняў), «Гомелям» (5-е месца, 12 ачкоў пасьля сямі гульняў). На чацьвёртым месцы пакуль салігорскі «Шахцёр» - 13 ачкоў у сямі гульнях.

Ну а замыкае табліцу слонімскі «Камунальнік» - 2 ачкі ў сямі гульнях. Розьніца забітых і прапушчаных галоў - 2:19...

**Вітаўт Руднік**

1.Старажытная зброя - рэмень, якім кідалі камень ці металічны шар. 2.Старажытная назва Брэста. 3.Цяглавая драўляная прылада для ворыва. 4.Пласцінка з зубамі для расчэсвання валасоў. 5.Антычны сасуд. 6.Старажытная зброя. 7.Прыстасаванне, якое служыць наезніку для лепшага кіравання канём. 8.Насып над старажытнай магілай. 9.Металічнае ўпрыгожанне ў выглядзе паўмесяца. 10.Заглыбленая ў зямлю жылая пабудова.




**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N17:**

Па гарызанталі: 7.Таўстуха. 8.Распуста. 10.Друза. 11.Бурштын. 12.Маянэз. 14.Венгры. 16.Флейц. 17.Вакх. 19.Эмоцыя. 20.Лебяда. 24.Ліна. 25.Уступ. 26.Фартух. 30.Ятаган. 31.Арменія. 32.Міран. 33.Фальбона. 34.Імшарына.

Па вертыкалі: 1.Даўгунец. 2.Стартэр. 3.Яхідна. 4.Газа. 5.Аполак. 6.Этажэрка. 9.Бушаль. 13.Эйлер. 15.Гумка. 17.Водар. 18.Тырса. 21.Лістапад. 22.Тундра. 23.Шуміліна. 27.Асмалак. 28.Жальба. 29.Панама. 32.Міна.

ТЭСТ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

# Каханне...

**Працяг. Пачатак у N17 ад 18 траўня г.г.**

**Цяжка, а мо і немагчыма нейкімі падлікамі праверыць каханне. Але калі паставіцца да такога занятку з гумарам, то гэты тэст можна ператварыць у захапляльную забаву. Умовы гульні наступныя: закаханыя адказваюць на пытанні па чарзе. Калі адказваеце «так» - пераходзьце да наступнага пытання, калі «не» - прапускаеце чаргу. Калі не ў стане адказаць ні «так», ні «не», тады двойчы прапускаеце чаргу. Гульня заканчваецца ў той момант, калі адзін з гульцоў адказаў на апошняе пытанне тэсту (незалежна ад таго, на якім пытанні спыніўся ягоны партнёр).**

**18.** Вам даводзілася зрабіць у дачыненні да яго (яе) нейкі кепскі ўчынак, які асудзілі б самі, калі б Ваш(-а) партнёр (каханая) учыніў(-ла) нешта падобнае Вам?

**19.** Жыццё закаханых - пошук згоды, а не доказ увесь час таго, што рацыю маеце менавіта Вы, а не ён (яна). Як лічыце?

**20.** Калі пры Вас крытыкуюць партнёра (каханую), а побач яго (яе) няма, ці станеце яго (яе) абараняць?

**21.** Ці дапускаеце Вы думку пра тое, што ён (яна) падтрымлівае адносіны з сябрамі, якіх Вы не ведаеце?

**22.** Ваш(-а) каханы(-ая) - частка Вас самой(-ога)?



**Падвядзем вынікі**

Нехта з Вас закончыў гульню? Адразу падлічыце, на колькі пунктаў засталося адказаць партнёру.

**1. Вы скончылі гульню адначасова.**

Вы сапраўды кахаеце адзін аднаго, нібыта Рамэо і Джульета альбо Трыстан і Ізольда. Падобна на тое, што ў латарэі кахання вы выйгралі галоўны прыз. Але ваша шчасце і гармонія могуць стаць прадметам зайздрасці.

**2. На фінішы вас раздзялілі адзін ці два пункты.**

Вы, безумоўна, закаханыя. Аднак вашыя погляды на каханне адрозніваюцца. Вашаму каханню ўласцівыя пікі і спады. І некаторыя праблемы могуць стаць выпрабаваннем для вашых адносінаў. У цэлым жыццё ваша будзе адпавядаць афрыканскай прымаўцы: каханне, нібы дождж, і рэдкія кроплі могуць ускаламуціць ваду.

**3. Розніца на фінішы ад трох да пяці пунктаў.**

Відаць, вы пазбаўленыя асаблівых ілюзіяў сентыментальнага кшталту. Але ў цэлым задаволеныя адносінамі між вамі. Шкада, што адчуванне «сёмага неба» даўно мінула. Ва ўсялякім выпадку, калі вырашыце расстацца, то адбудзецца гэта без драмы.

**4. На фінішы вас раздзялілі больш як пяць пунктаў.**

Канфлікты паміж вамі непазбежныя, і таму лепей не заганяць іх унутр. Верагодней за ўсё, любая ваша спрэчка ператвараецца ва ўзаемную дэманстрацыю моцы і форму самасцвярджэння. Аднак не забывайцеся, што кожны з вас мае права расслабіцца. Можна параіць адно: варта закапаць сякеру вайны і зрабіць паўзу ў сваіх адносінах. Такая манера зносінаў з'яўляецца часткай адносінаў унутры пары закаханых.

# Увага! Падпіска - 2000

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

***АБАНЕМЕНТ*** на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

***"ПАГОНЯ"***

(назва выдання) | Колькасць камплектаў 1

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

***ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА***

на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

***"ПАГОНЯ"***

(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 1тыс. 200руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. __ кап. | | |

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** На гэтым тыдні поспех ва ўсіх справах будзе залежаць толькі ад Вашага энтузіязму. Сачыце за здароўем.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Паспрабуйце надаць асаблівую ўвагу Вашым блізкім. Вырашыце спрэчныя пытанні адносна летніка, зямельнага ўчастка ці дома.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Тыдзень спрыяльны для зносінаў з сябрамі. Не выключана, што нарэшце знойдзеце сваё месца пад Сонцам.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Удача шукае сустрэчы з Вамі. Пастарайцеся з ёю не размінуцца. Разлічвайце на дапамогу Казярога.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Сустрэньцеся з сябрамі і абмяркуйце планы на выхадныя. Вам павінна пашанцаваць у азартных гульнях.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Тыдзень крыху сумнаваты, але прыемны, бо атрыманне прэміі, узнагароды на працы непазбежна.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Зносіны са Стральцамі і Вадалеямі могуць стацца не толькі прыязнымі, але і карыснымі, у чым Вы хутка пераканаецеся.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Вас ізноў вабіць падарожжа, Вы на парозе новага этапу ў жыцці. Удалага адпачынку!

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Калі няма жадання займацца хатнімі справамі, схадзіце ў госці, паедзьце на прыроду, але абавязкова з сябрамі.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Будзьце ўважлівей на працы. У пятніцу добра завяршыцца якісьці з цыклаў - ва ўзаемаадносінах альбо ў бізнесе.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Тыдзень, зусім не падобны на папярэдні. Шмат інфармацыі, новыя пагадненні, кантакты, павышанная ўвага да Вашай асобы ды шмат чаго іншага.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** У сярэдзіне тыдня мае сэнс заняцца хатняй гаспадаркай. Варта наведаць летнік усёй сям'ёй.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1 739 Наклад 7 281
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 24.05.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадстаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей